# Дняпроўская СТРОМА



№ 20 красавік 2013 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ «САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ»


## Барыс Пятровіч наведаў Магілёў

У апошні дзень сакавіка ў Магілёве адбылося паседжанне абласной філіі ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".

На сустрэчы прысутнічалі Тамара Аўсяннікава, Таццяна Барысік, Міхась Булавацкі, Віталь Еўмяньkoў, Сяргей Украінка, Мікола Яцкоў, старшыня СБП Барыс Пятровіч, памочнік старшыні Усевалад Сцебурака, кіраўнік літаратурнага гуртка пры магілёўскай арганізацыі ТБМ Аляксей Карпенка.



Старшыня магілёўскага абласнога аддзялення СБП спадар Мікола Яцкоў даў справаздачу аб дзейнасці сябраў СБП за сакавік 2013 года. Варта адзначыць, што самая маладая абласная суполка працуе актыўна, зўважна прысутнічаючы ў культурным жыцці рэгіёна.



Міхась Булавацкі



Усевалад Сцебурака і Барыс Пятровіч

Сярод адметных падзеяў з удзелам пісьменнікаў Магілёўшчыны былі ўзгаданыя творчая сустрэча Міколы Яцкова ў клубе "Субяседнік" пры гарадской бібліятэцы, удзел у "круглым стале" "Роля сучаснай літаратуры ў грамадска-патрыятычным выхаванні моладзі" ў межах святкавання Міжнароднага дня паэзіі ў Магілёўскай абласной бібліятэцы, далучэнне да "Пысінскіх чытанняў" удзельнікаў гарадскога літаратурнага клуба "Святліца" на чале з яго кіраўніком Тамарай Аўсяннікавай. Таксама быў прэзентаваны чарговы нумар літаратурна-мастацкага і інфармацыйнага бюлетэня Магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" "Дняпроўская строма", што выдаецца філіяй з траўня 2012 года.



Тамара Аўсяннікава і Сяргей Украінка



Барыс Пятровіч віншуе новага сябра СБП Віталя Еўмянькова



Алена Лаўранцова і Аляксей Карпенка



Ала Яцкова

Старшыня СБП Барыс Пятровіч азнаёміў сябраў магілёўскай філіі з бягучымі справамі арганізацыі і ўручыў пасведчанне сябра саюза магілёўскаму пісьменніку Віталю Еўмянькову.

*Прэс-служба ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"*



**ФОТА НА ЎСПАМІН**

Злева направа: *Таццяна Барысік, Сяргей Украінка, Алена Лаўранцова, Віталь Еўмянькоў, Аляксей Карпенка, Тамара Аўсяннікава, Міхась Булавацкі, Усевалад Сцебурака, Барыс Пятровіч, Мікола Яцкоў.*

**Фотаздымак Алы Яцковай.**

## ВОЛЬНЫ МІКРАФОН

### Дзе падзяка за мову і асвету?

Беларусь цягам некалькіх стагоддзяў культурна і духоўна адукоўвала Расію. Вельмі шмат этнічных беларусаў зрабілі свой унёсак у расійскую літаратуру. Гэта факт яшчэ з часоў Сямёна Полацкага, які быў выхавальнікам у царскіх дзяцей. Далей, вельмі вядомыя пісьменнікі, сярод якіх Дастаеўскі і Грыбаедаў, што паходзілі з беларускага роду. Але з гэтага не вынікае, што Беларусь належыць да расійскай цывілізацыі. Вялікае княства Літоўскае было апанентам Масквы ў аб'яднанні славянскіх зямель. З тых часоў беларуская літаратурная мова была больш развітая, распрацаваная і перадавая, а расійская мова як раз на ёй і ўзбагацілася.

Калі ў Беларусі існавала больш за 150 друкарняў, у Расіі было толькі дзве, і адна з іх беларуская. Дастаткова ўспомніць той факт, што беларус Францішак Скарына надрукаваў Біблію ў 1517 годзе, а ў Расіі першадрукары-беларусы Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец надрукавалі Біблію амаль праз 50 гадоў – у 1564 г. Дарэчы, гэтую друкаваную Біблію пасля спалілі, а першадрукароў выгналі.

Наогул Масковія ў XVI стагоддзі была краінай цемрашальства. Таму, калі і казаць пра нешта, то пра ўзаемны ўплыў. Культурнай і духоўнай місіяй Беларусі была асвета Расіі, якая тады была дзікім усходам. Культура і элементы цывілізацыі ішлі ў Расію ў асноўным праз Беларусь.



*Павел СЕВЯРЫНЕЦ, літаратар, палітык.*

Паводле charter97

## Нашы юбіляры



► Споўнілася 110 год з дня нараджэння Платона Раманавіча ГАЛАВАЧА – беларускага пісьменніка.

Нарадзіўся 18 красавіка 1903 года ў в. Пабокавічы Бабруйскага павета ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Гарбацэвіцкай царкоўнапрыходскай школе, затым у сямігодцы. Адным з першых уступіў у камсамол, арганізаваў ячэйку ў роднай вёсцы. Прымаў актыўны ўдзел у ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва. Пасля вучобы ў Мінскай партыйнай школе працаваў інструктарам Барысаўскага павятовага камітэта камсамола. Закончыў Камуністычны ўніверсітэт. З 1928 г. – першы сакратар ЦК ЛКСМБ і рэдактар газеты "Чырвоная змена". З лістапада 1929 г. да сакавіка 1930 г. – намеснік наркама асветы БССР. Адзін з кіраўнікоў літаратурных арганізацый "Маладняк" і БелАПП. У розны час рэдагаваў часопісы "Маладняк", "Полымя". Член СП СССР з 1934 г.

Арыштаваны 11 жніўня 1937 г., асуджаны 28 кастрычніка 1937 г. тройкай НКУС як «арганізатар тэрарыстычнай групоўкі» і за «правядзенне нямецка-фашысцкай дзейнасці» да вышэйшай меры пакарання і растраляны праз некалькі гадзін пасля прысуду. Рэабілітаваны 15 ліпеня 1956 г.

Пачаў друкавацца з 1921 г. З пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці змагаўся за чысціню роднай мовы, за яе дакладнасць і выразнасць. Аўтар зборнікаў "Дробязі жыцця" (1927), "Хочацца жыць" (1930), "Спалохі на загонах" (1930), рамана "Праз гады" (1935) і інш. У 1958 г.

# Нашы юбіляры

выйшаў Збор твораў у 3-х тамах.

Імем Платона Галавача названы вуліца і завулак у Бабруйску. У 1968 г. на будынку школы, дзе ён вучыўся, адкрыта мемарыяльная дошка.

► Споўнілася 75 год **Алесю (Аляксандру) Герасімавічу МАСАРЭНКА** – празаіку і перакладчыку.



Нарадзіўся ў в.Ходарава Прапойскага (зараз Слаўгарадскага раёна) Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння Целяшоўскай сярэдняй школы (1956) працаваў інструктарам Слаўгарадскага райкама камсамола, у 1957—1960 гг. служыў у Савецкай Арміі. У 1960 г. паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, з трэцяга курса перавёўся на вячэрняе аддзяленне і да заканчэння ўніверсітэта (1966) быў выхавацелем у школе-інтэрнаце № 13 у Мінску. Працаваў рэдактарам на Беларускім радыё, загадчыкам аддзела газеты «Чырвоная змена», інструктарам па прамысловым адлове рачнога бабра Літоўскага заацэнтра, літсупрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва», рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Беларусь», адказным сакратаром часопіса «Полымя», у геадэзічнай экспедыцыі Забайкалля рабочым I разраду. З 1977 г. — рэдактар аддзела прозы часопіса «Маладосць», з 1978 г. — сябра сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм», у 1982—1985 гг. — загадчык аддзела крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Полымя», з 1989 г. — літкансультант літаб'яднання «Крыніцы» пры штотыднёвіку «Чырвоная змена».

Літаратурную працу пачаў з вершаў. З апавяданнямі ў рэспубліканскім друку выступіў у 1962 г. Аўтар аповесці «На бабровых тонях» (1971), зборнікаў аповесцей і апавяданняў «Журавіны пад снегам» (1976), «Сонца майго дня» (1988), рамана «Баргузінскае лета» (1982). Пераклаў на беларускую мову аповесць бурацкага пісьменніка Б. Мунгонава «Чорны вецер» (1973).



## Нарадзіліся ў красавіку

► 1 красавіка 1910 г. у в.Стары Дзедзін Клімавіцкага павета нарадзіўся **Алесь (Аляксандр) Трафімавіч ПРУДНІКАЎ** – паэт.

► 2 красавіка 1906 г. у в.Воўкаўка Чэрыкаўскага павета нарадзіўся **Іван Васільевіч ГУТАРАЎ** – літаратуразнавец, фалькларыст.

► 2 красавіка 1962 г. у в.Малінаўка Касцюковіцкага раёна нарадзіўся **Іван Васільевіч САВЕРЧАНКА** – літаратуразнавец, гісторык.

# Фестываль культуры і творчасці

«Прыгажосць - адзенне ісціны» – так гучала тэма Фестывалю культуры і творчасці, які прайшоў у Магілёве. Яго арганізатарам і натхніцелем ўжо каторы год выступае Вольга Аляксандраўна Андарала. У 2012 г. да яе далучылася Людміла Аляксандраўна Валадзько, старшыня ГА "Рускае культурна-асветніцкае грамадства". Адкрыццё фестывалю адбылося 2 красавіка ў абласным мастацкім музеі імя П.В.Масленнікава выставай украінскага скульптара Аляксея Лявонава.



На адкрыцці выставы. Крайні справа - скульптар Аляксей Лявонаў.

Пляцоўкамі для правядзення сталі навучальныя і культурныя ўстановы горада – музычны каледж імя Н.А.Рымскага-Корсакава, гімназія №4, Цэнтр творчасці "Эверэст", бібліятэчны каледж імя А.С.Пушкіна, дзіцячая школа мастацтваў №1, сярэднія школы №№ 37 і 43.

У МДУ імя А.А.Куляшова прайшлі чытанні для бацькоў "Прыгажосць і гармонія ў сямейных адносінах і выхаваўчым працэсе". У абласным Палацы культуры вобласці магіляўчане паглядзелі спектакль Народнага тэатра "Выйсце крыніц" па творах У.Караткевіча (кіраўнік Ала Кускова).



Скульптуры А.Лявонава





Тамара Аўсяннікава і сябры клуба "Святліца"



Падвядзенне вынікаў

У фестывалі прыняў удзел і літаратурны клуб "Святліца" (кіраўнік клуба – сябра СБП Тамара Аўсяннікава).

20 красавіка ў музеі імя П.В.Масленнікава падвялі вынікі творчага конкурсу, на якім ўручылі дыпломы і падарункі ад ГА "Рускае культурна-асветніцкае грамадства". У складзе лаўрэатаў былі і члены літаратурнага клуба "Святліца" – Алена Быкава, Марыя Грамакова і Аляксандра Пчалінцава.



Людміла Валадзько ўзнагароджвае пераможцаў творчага конкурсу

Закрыццё фестывалю прайшло 21 красавіка ў абласным Палацы культуры, дзе выступіў Заслужаны калектыў РБ дзіцячай эстраднай студыі "Вясёлыя ноткі" (мастацкі кіраўнік Павел Пабягаеў).

*Фотаздымкі з асабістых архіваў Тамары Аўсяннікавай і Людмілы Валадзько.*

ISSN 1818-4286

LIBRARY world

БІБЛІЯТЭЧНЫ свет

Афіцыйна
Волат роднай культуры
2 с. вокл.

Бібліятэчная статыстыка
Статистический учет деятельности библиотек Беларуси
с. 7

Бібліятэчная сетка
Становление и развитие сети медицинских библиотек Беларуси
с. 9

2 2013
Выдаецца з 1996 г.

Тамара Завадская
Библиотекарь Славгородской центральной библиотеки

Под знаком Года книги

На протяжении года проводились различные по форме и содержанию мероприятия, которые, на наш взгляд, содействовали активизации интереса к белорусской литературе и языку. Наиболее яркими и запоминающимися были мероприятия, которые проходили с приглашением известных людей. Так, на презентацию книги «Ты рядом – значит я живу» был приглашен автор, писатель-земляк Ф.В. Шкирманков. Прошло мероприятие в форме заседания краеведческо-патриотического клуба «Радзімічы» и было посвящено празднику всех влюбленных. Сборник стихов Феликс Владимирович посвятил своей жене – Вере Васильевне. Автор рассказал о первой встрече со своей будущей женой, о том, что же это за чувство – любовь. Пожелал всем найти свою «вторую половинку» и прожить с ней в любви и согласии всю жизнь. Стихи, звучавшие на мероприятии, были из нового сборника и посвящались высокому чувству любви к женщине.

Ко Дню Победы в библиотеке был оформлен вернисаж военных книг «Литературный парад Победы». У выставки для учащихся 10–11 классов был проведен обзор литературы «Великая Отечественная война глазами белорусских писателей», целью которого было рассказать о более значимых произведениях, посвященных войне. Особое внимание было уделено произведениям нашего писателя-земляка, ветерана Великой Отечественной войны Ф.В. Шкирманкова.

## Згадкі пра паэта



**Часопіс «Бібліятэчны свет», які выдае Нацыянальная бібліятэка Беларусі, у № 2, 2013 змясціў артыкул бібліятэкараў Слаўгарадскай цэнтральнай бібліятэкі Надзеі Куратавай і Тамары Завадскай «Пад знакам Года кнігі». Частка артыкула прысвечана паэту-франтавіку Феліксу Уладзіміравічу Шкірманкову. Прапануем вашай увазе гэтыя згадкі.**

# Сустрэчы з "Літаратурным прадмесцем"

"Літаратурнае прадмесце" – гэта суполка беларускіх літаратараў, якая ў снежні 2012 года адзначыла сваё 10-годдзе. Ад самага пачатку аб'яднаннем кіруе Людміла Іванаўна Рублеўская, якая зрабіла "Прадмесце" сапраўднай лабараторыяй маладых талентаў. Да юбілею суполкі быў падрыхтаваны аднайменны зборнік, куды ўвайшлі вершы і проза тых аўтараў, хто на працягу дзесяці год удзельнічаў у дзейнасці "Літаратурнага прадмесця".




13 красавіка 2013 г. ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі" у Бялынічах і Магілёве адбыліся творчыя сустрэчы паэтэсы, пісьменніцы, літаратурнага крытыка Людмілы Рублеўскай, паэтэсы, редактара аддзела паэзіі часопіса "Маладосць" Вікі Трэнас і гітарыста, лідара гуртоў "White Night Blues" і "Nestary Band" Юрася Несцярэнкі, на якіх быў прэзентаваны гэты зборнік.

На сустрэчы ў Бяльніцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы Людміла Рублеўская распавяла аб развіцці сучаснага беларускага літаратурнага працэсу і маладых творцах, якія актыўна працуюць у мастацкім асяроддзі, пазнаёміла з дзейнасцю суполкі, якой кіруе, падзялілася творчымі планамі і задумкамі.



Сустрэча ў Бялынічах



Цудоўны настрой у прысутных выклікалі песні ў выкананні Юрася Несцярэнкі.

Бяльніцкія паклоннікі творчасці беларускіх пісьменнікаў з цікавасцю задавалі пытанні гасцям, тыя ж з энтузіязмам і захапленнем адказвалі на іх. Напрыканцы мерапрыемства кожны змог набыць новае выданне, а таксама атрымаць аўтографы ад любімых аўтараў.

У цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя К.Маркса г.Магілёва падчас сустрэчы Людміла Рублеўская пазнаёміла прысутных з уласнымі кнігамі, якія выйшлі нядаўна. Віка Трэнас прачытала некалькі сваіх вершаў, а таксама распавяла пра тое, як маладое пакаленне беларускіх літаратараў прадстаўляе нашую краіну за мяжой.



Віка Трэнас



Людміла Рублеўская

Наведнікі мелі магчымасць пабачыць кнігі і часопісы, выдадзеныя ў Швецыі, Літве, Нямеччыне, на старонках якіх змешчаны пераклады твораў сучасных беларускіх аўтараў на замежныя мовы – шведскую, нямецкую, літоўскую, польскую.



Аўтографы ад Юрася Несцярэнкі

Юры Несцярэнка праспяваў песні на вершы Людмілы Рублеўскай і іншых аўтараў.

На сустрэчы прысутнічалі сябра СБП, кіраўнік гарадскога літаратурнага клуба "Святліца" Тамара Аўсяннікава, кіраўнік літаратурнага гуртка магілеўскага аддзялення ТБМ Аляксей Карпенка, удзельнікі гэтых паэтычных аб'яднанняў.



Фотаздымак на ўспамін

*Паводле www.lit-bel.org*

# "Краязнаўчую гасцёўню" наведаў Валянцін Голубеў

14 красавіка 2013 года ў "Краязнаўчай гасцёўні" Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея імя Е.Раманава адбылася сустрэча, прысвечаная 150-годдзю паўстання Кастуся Каліноўскага.

Вядучы навуковы супрацоўнік музея Марына Тарасава зрабіла агляд матэрыялаў музея пра паўстанне 1863-1864 гг. і прадставіла госця – вядомага беларускага гісторыка, вядучага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, доктара гістарычных навук Валянціна Фёдаравіча Голубева. Па словах М.Тарасавай, шаноўны госць *«нядаўна працаваў у архівах Вільні і знайшоў шмат цікавага пра паўстанне Каліноўскага»*.



Марына Тарасава

Валянцін Голубеў адзначыў, што у Магілёўскай і Віцебскай губернях удзел насельніцтва ў паўстанні 1863—1864 гадоў быў найменшым у Беларусі. Адмена прыгоннага права, якое ў гэтых губернях было самым жорсткім у параўнанні з астатнімі рэгіёнамі Беларусі,і абяцанне царскага ўрада даць сялянам зямлю не спрыялі падтрымцы праваслаўным насельніцтвам паўстання Каліноўскага на ўсходзе Беларусі, лічыць гісторык. Ён прывёў прыклад Горак, дзе да паўстанцаў далучаліся студэнты сельгасакадэміі і вайскоўцы, а мясцовае насельніцтва адмовілася падтрымаць паўстанцаў.





Валянцін Голубеў



Віталь Еўмяньковў

Паводле слоў вучонага, Каліноўскі разумеў, што паўстанне не было падрыхтавана. Як беларускі дэмакрат, ён абапіраўся ў паўстанні на простых сялян і адным з першых паставіў пытанне аб нацыянальна-дзяржаўнай ідэнтыфікацыі беларусаў і літоўцаў, выступаў за незалежнасць свайго народа.

У Міколы Яцкова пытанне да госця...

Прысутныя з вялікай цікавасцю слухалі прамоўцу і прымалі непасрэдны ўдзел у сустрэчы. Напрыклад, вядомы магілёўскі навуковец, пісьменнік, сябра СБП Віталь Еўмяньков удакладніў некаторыя моманты паўстання і атрымаў ад В.Голубева дазвол карыстацца унікальнымі дакументамі, якія былі знойдзены ў архівах Вільні.

"Краязнаўчая гасцёўня" і надалей будзе дапамагаць магілёўцам пашыраць веды пра гістарычнае мінулае нашай Айчыны.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ.**

Фотаздымкі Міколы Яцкова і Алы Яцковай.





# Алесь КАЗЕКА

# Я, Сярога і Парнас

## *Паэма*

Алесь Казека – паэт шматгранны і своеасаблівы. Ён аднолькава добра пачувае сябе і ў лірычных, і ў драматычных, і ў сатырыка-гумарыстычных плынях паэзіі. Ён вельмі сябруе з беларускай мовай, і тая адказвае яму ўзаемнасцю, дазваляючы выкарыстоўваць усё сваё назапашанае багацце непаўторнасці інтанацый, акварэльнасці нюансаў і лаканічнай нешматслоўнасці. А беларуская мова, шчыра кажучы, сябруе не з кожным беларускім паэтам. Яна такая – пільная, асцярожная і з характарам...

Новая паэма А.Казекі «Я, Сярога і Парнас» створана ў лепшых традыцыях беларускай «народнай» паэзіі. Яна «дыхае» прастатой вясковай гаворкі, але гэта не замінае паэту ўзнімаць высокую праблематыку асэнсавання рэчаіснасці. Чытаючы радкі паэмы, можна і пасмяяцца, і сур'ёзна задумацца, і зрабіць пэўныя высновы. А гэта галоўнае.

Менавіта ўсё гэта і паспрыяла таму, што «Дняпроўская строма» аддае свае старонкі для першай публікацыі гэтага твора – з упэўненасцю ў яго доўгім жыцці ў сутарэннях беларускай літаратуры.

*Мікола ЯЦКОЎ.*

*На курган векавечны,*
*дзе шэпчуцца музы,*
*далакоп свайго лёсу,*
*я неяк узлез і...*
*...І пад тысячай тон*
*вершаванага друзу*
*пахаваў і свае*
*9 гранаў паэзіі.*

*Сяргей Украінка.*

Неяк –
Проста так, ці, можа,
Нёс якую навіну –
Да мяне сябрук Сярожа
На хвілінку зазірнуў.

Ну, па чарачцы пад шкварку,
Як вядзецца ў нас здаўна.
І... Канечне, на рыбалку!
Каб не траціць час дарма.

Мушу тут агаварыцца:
Што з рыбалкай – без турбот.
Рэчка з чыстаю вадзіцай
Ля маіх цячэ варот.

На масткі!
Ліхтар, нажыўка,
Снедзь у торбе, як заўжды.
Вуды – во!
З японскай жылкай,
Каб надзейна, без бяды.

Прыкармілі, тое, сёе...
Прымасціліся. Сядзім.
Па-над цёмнаю вадою
Пара сцелецца, як дым...

Паплаўкі нібы прысохлі,
На кручку ссінеў чарвяк.
Ці то рыбы тыя здохлі?
Ці са снасцю што не так?

Ды няма турботы творцам.
Тут Сяргуня расказаў
Як з Міколам Цудатворцам
Цеплатрасу абжываў.[1]

А затым у поўнай скрусе
Мне на вуха прашаптаў,
Што, даўно яшчэ, у друзе [2]
Нешта цэннае схаваў.

Потым чэсна гэтак глянуў:
– Эх, каб зараз на Парнас,[3]
Ды забраць тых дзевяць гранаў.[4]
Бо сапруць жа ў нейкі час...

– Іш, хваціў! Ты што, на крылах?
Дзе тут мы, а дзе Парнас?
Як мазгоў табе хапіла
Утварыць такі запас?
Як туды цяпер даб'ешся?
Мабыць ты дабро спаліў.

– Каб знацца, дзе спатыкнешся,
Дык саломкі б падсцяліў...

Так няўзнач мінула поўнач –
Неяк хутка час прайшоў.
Усплыла над лесам поўня,
Толькі лешч – не "падышоў".

Іншы раз гусцёрка дзёўбне,
Ці бычок – тут не ўглядзіш.
А калі дык ёмка сцёбне –
Падсякаеш – з макам шыш.

Але трэба ціха-ціха
На начной усё ж сядзець,
Бо магчыма тут, на ліха,
І паклёўку прагледзець.

– Ты не ў курсе?
– ???
– Нахран палкай
Высякаць агонь з вады?

Што ты?..
– Выкінуў Русалку.
– Дык... навошта?
– А куды?..

Зноў сядзім. Нуда. Маркота.
І паддачы ўжо няма.
Быццам тыя ідыёты...
– Зараз піва б..., ці віна.

– Глянь-ка! –
Нібы ў танцы, лёгка
Паплавок пабег, пабег...
– Не марудзь, міне паклёўка.
– Не суроч. Чакай. Падсек!

Нехта спрытны, нехта важкі
Вуду гне, убок вядзе.
Вось дзе ведаць вельмі важна,
Што яна не падвядзе!

Мне карціць ужо.
– Здаецца,
Што там сом.
– А можа рак? –
Але ўсё ж Сяргей імкнецца
Роўна выставіць падсак.

– От жа ж гад, як спрытна скача!
– Бліжай, бліжай падвадзі!
Што там, бачыш?
– Не, не бачу.
Калі можаш – сам глядзі!

Ён падсак прыпадымае...
Адганяюць блікі цень.
– Што там?
– Рыбка... Залатая!
Вось дык дзіва!
– Вось дык хрэнь!
Можа гэта...
– Сплюнь! Ды што ты?..
– Ушчыкні. Мы, можа, спім?..

Толькі чую:
– Гэй, наркоты,
Добрай ночы! Што маўчым?
Не туды, спрывіліш шыю!
У падсак глядзі. Пазнаў?
Рабінгуды, блін, касыя.
Ледзь "грыбы" не адарваў.
Панасадзяць ідыётаў,
Нахер некага паслаць.
Во знайшла сабе работу...

Ну, давай! Харэ маўчаць.
Што ты, кніжак не чытаеш?
Тры жаданні, як заўжды.
Што закажаш – атрымаеш.
Мне, канкрэтна, да звязды.
Гавары вось ты, вусаты.
Ты ж мяне як быццам спас!..

Я заенчыў вінавата:
– Мы тут... Хочам... На Парнас.

– А я думала, што будзе
Разумнейшы нехта з вас.
Марны лёс... Ну што за людзі? !
Што ж, выконваю заказ.

Так сказала нам, і знікла.
Разам з ёй у той цішы
Знікла ўсё... І мне нязвыкла
Неяк стала на душы.

Не, хлапцы, ні ў якім разе
Мы не здрэйфілі тады.
Толькі – р-раз! – і на Парнасе,
Без усякае хады.

Камуфляж, цяжкі абутак,
Нож у задніцу дзяўбе – [5]
Пэўна, бляха, Рабінгуды.
Аж нямёка за сябе.

Стала холадна адразу.
А затым, праз нейкі міг,
Цеплыня накрыла разам,
Распраніся хоць пры ўсіх.

Карацей, і смех, і гора.
Вось, папалі мы ўпрасак!
І які, скажыце, ўчора
Прымушаў нас піць мудак?

Пагляджу: навокал ходзіць
Знакаміты, пэўна, люд.
А Сярога носам водзіць,
Зазірае ў кожны кут.

Злева людзі, справа людзі –
Так нядоўга да бяды.
Мы тут згубімся, ці зблудзім.

– Гэй, Сярога! Ком сюды.
Трэба вызначыць задачу,
Каб усё пайшло на лад:
Я пайду да Музы, значыць.

Ты – шукаць свой даўні клад.
І, дарэчы, ты заўважыў?
Тут ідзе іначай час.
– Разбярэмся.
– Гэта важна.
Ёлкі-палкі. Во... Парнас!

Тут расталіся з Сярогам.
Ён – сабе, а я – сабе.
Павяла мяне дарога...
Толькі пыл, ды нож дзяўбе.

На гары палац прыгожы.
Вось – люстэрка на сцяне.
Гляну мелькам: ну і рожа.
Ці прывецяць тут мяне?

Пад рамень засунуў пуза,
Гэта ўсё-такі Парнас.
– Эй, мужык!
– А, Вы да Музы?
Вось сюды. Чакаюць Вас.

Адчыняю дзверы ціха,
Бо да ўсякага прывык.
Божа!
Тут ураз ад пыхі
І замутак нават знік.

Прыгажэйшага стварэння
Я ўявіць сабе не мог.
Аж сківіцу ад здзіўлення
Ледзь паспеў спаймаць ля ног.

Галава шуміць прыбоем,
Кроў – вось-вось – і закіпіць.
Не пазнаць сябе. Ды што я?..
Трэба ж нешта гаварыць.

І панёс: што я здалёку
Спецыяльна прыляцеў,
Што тут клімат дужа лёгкі,
Што даўно таго хацеў...

Я ж спяваць такія песні,
Калі трэба, то мастак.
Але бачу, хоць ты трэсні,
Нешта тут ідзе не так.

Чысціня нябесная шыры
У вачах. І лёду шкло...
Усміхнуўся. Проста, шчыра
І... адразу ўсё пайшло.

– Я цябе даўно чакала.
Віп'еш кавы, ці віна?
Каб ты ведаў, як дастала
Крывадушная мана!
Знай, у век хлусні і блуду,
І заган усіх масцей
Я з табой заўсёды буду.
Хоць... наўрад ці так прасцей.

Я ад гэтага прызнання
То бялеў, то чырванеў.
Але ўсё ж, брахаць не стану,
Так расчуліла мяне...

– А скажы-ка, Муза, мне ты
Што за люд таўчэцца там?
Дзе празаікі, паэты?
Нешта я не ўцямлю сам.

Спахмурнела раптам Муза.

– Творцы нашы да пары
Ад ліхіх капанцаў друзу.
Пахаваліся ўгары.
А таўкуцца камерсанты.
Так сабе: купі-прадай.
І нямашака гарантый
Ад нашэсця новых зграй.
Сотні тон падобных грузаў
Неслі ўсе раней сюды.
А цяпер вагоны друзу
Разбіраюць хто куды.







– Пачакай. А што, тых гадаў
Не прыструніць тут ніхто?
Ці няма каму загаду
Выдаць? Тут адказны хто?

– Тут няма такога, любы.
Вось да гэтае бяды
Гонар і любоў ад згубы
Ратавалі нас заўжды.
Але бач, знайшліся людзі –
З свету вашага народ.
Што цяпер з Парнасам будзе?
Мы ж збіралі столькі год!..

І з такой глядзіць журбою,
Гэтак туліць галаву…

– Ды я ўсіх за нас з табою
На брытанскі флаг парву!
Мне патрэбна з сябрам стрэцца.
Ты хвіліну пачакай.
Не турбуйся. Мне здаецца,
Уратуем любы край.

І з палацу прэч падаўся,
Апынуўся на двары.
Толькі зараз разабраўся,
Што няма ўжо паўгары.
Ну, капанцы-паразіты,
Гэтак будзе да пары!
Як няма ў сваёй макітры,
Хрэна знойдзеш і ў гары.

Гэтак сам расхваляваўся,
Так завёўся – проста страх.
Тут Сяргей намаляваўся
З ёмкай торбай у руках.

Вельмі ўзрушана гаворыць,
Аж рукамі стаў махаць.
– Дзе там скарб твой?
– Га? Каторы?
– Дай-ка торбу патрымаць.
Ні хрэна мне дзевяць гранаў!
– Дай сюды назад!
– Пастой.
Тут з дзясятак кілаграмаў.
Колькі ж гран пацягне твой?

– Вечна, бляха, ты з падколкай.
Аддавай законны груз.
Зараз будзе ўсё па толку.
Я цяпер – казырны туз!
Там – усё перакапана.
Ледзьве вось сваё знайшоў.
Панагналі сукі кранаў,
Самазвалаў, ды каўшоў.
Як далей вось гэтак пойдзе,
Дык Парнас, ядрона маць,
Год праз дзесяць хрэн хто знойдзе.
Трэба нешта прадпрымаць.

– Во, і Муза рады просіць.
Трэба, трэба падсабіць.
Так злуюся, аж калоціць.
Мы пайдзем, а ёй тут жыць.

– Гэта ты шчэ не праспаўся.
Скора пройдзе, не бяда.
Бачу-бачу, закахаўся.
А скажы: ці ёсць звязда?

Калі ёсць, і я б паддаўся.
– Памаўчы!
– Вось гэта да!
Значыць, пэўна закахаўся…
Значыць, ёсць і ў іх звязда.

І Сяргуня, як філосаф,
Ці чысцёха без заган,
Моршчыць лоб і хітра косіць.
–Ты на што ківаеш?
–Га?
– Што ты, нібы знепрытомнеў?!
Ты давай па дзелу тут. –
І сябрук, нібыта ўспомніў:
– Можа: рыбка, родны кут…

– Не, пасля тае сустрэчы,
Я не дужа з ёй.
Але ж…
Не па тэме баба “лечыць”.
Можа ты ўжо пазавеш?

– Я таксама з ёй не буду
Падымаць ніякіх тэм.
– Дзе вадзіца з гэтым “цудам”?
– Тут Кастальскі ключ.[6] Хадзем.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Во загналі ключ, дзівіся!
Нібы свет для іх малы.
– Рыбка! Рыбка! Адзавіся!

– Што, знудзіліся, казлы?
Мне ад вашых “пацалункаў”
Не патрэбен ботэкс той.
І няма ж ад вас ратунку.




Во спаймала гемарой!
Абплываць за кіламетр
Буду зараз гэты край.
Ёсць жа верная прыкмета…
Блін, звязалася…
Давай,
Гамані! Няма мне часу.

Раптам Муза – бац – прад ёй.
Рыбка ўбачыла й адразу
Адпусціла гонар свой.

– А-а, прабач, але ж абрыдла!
Дзе ты выкапала іх?
Ды яны ж, як тое быдла,
Ноч бухалі “на дваіх”.

Муза нешта прашаптала
Рыбцы ў вуха (прама ў вір).
– Што адразу не сказала?
Добра, хлопцы. Хопіць. Мір.

– Рыбка! – Я таксама рады. –
Трэба нам дапамагчы.
Як здабытак, дай нам рады,
Для нашчадкаў зберагчы?

– Гэта што, тваё жаданне?
– Ну канечне, выручай!
Я жадаю: каб да рання
Узнавіўся гэты край!

– Добра. Дайце трохі часу,
Каб вярнуць на месца друз.
Бо, калі зрабіць адразу,
Можа стацца землятрус.
А ўсё ж ты, калі не дурань,
То дзівак. Бо на двары
Зараз дзень. Чаму пануры?
Свой тут час. Ну, мы ж – сябры?!
Вы пакуль яшчэ пабудзьце
Тут дзе-небудзь, на ключы.
Бо такое зараз будзе…
Каб мне вас уберагчы!

Знікла рыбка. Праз хвіліну
Ірванула, аж варссё
Дуба стала. Нібы зрынуў
Нехта гмах і… сціхла ўсё.

А затым сцямнела разам
І… ці дождж, а ці то снег.
Колькі ўжо мінула часу?..
Страшна стала – не на смех.

Толькі мат у гэтым трусе
Так і прэцца з языка.
Але нельга – побач Муза.
І ў яе мая рука.

– Вось і ўсё. –
І зноўку разам,
Дружна, з радасцю ў вачах
Мы выходзім да Парнаса

Ад Кастальскага ключа.

Зноў ласкава свеціць сонца.
І на ўзноўлены Парнас
Чарадой выходзяць творцы,
Пра якіх казаў Тарас.[7]

Нехта вунь нервова курыць
Убаку… Ідзе сюды.
Не стае чагосьці курве.
Мабыць друзу, як заўжды.

Бач, галосіць:
– Братцы, братцы!
Разарыўся! Ад бяды
Мне куды цяпер падацца?
– Нахер!
– ???
– Гэта ву-у-нь туды.

Эх, Сярога!.. Не стрымаўся.
І нашто ж пры даме так?
Але той, глядзі, падаўся.
Мабыць дойдзе ўжо… Лайдак!

– Муза, чуеш? А чаму ты
Не зрабіла так без нас?
Без загібаў хітрамудрых,
Без прэлюдый і прыкрас.

– Не крыўдуй. Такую справу
Не зрабіць без вас павек. –
Тут становішча направіць
Можа толькі чалавек.
Толькі вашыя імкненні
Тут рашаюць. І для вас,
Можа, й наша прызначэнне,
Гэта сонца і Парнас.
Хай тваёй часцінкай стане
Гэта ўсё. Не забывай…
Ваша трэцяе жаданне
Рыбка ведае. Бывай.
. . . . . . . . . . . . .
Зноў масткі, палае ранне.
Я. Сярога. Пах ракі…

І нястрымнае жаданне
З цеплынёй Яе рукі…

Торба, кнігі… І прытомнасць
Ёсць… як быццам. Толькі звон…
– Ты, Сярога, нешта помніш?
– Помню.
– Можа, гэта сон?

– Але каб стрызніць такое…
Гэта ж поўны, блін, трындзец!
Трэ завязваць мне з напоем.
Да дабра не давядзе.
Словы ўсе, канешне, мігам
Можна вынішчыць ушчэнт.
А вось гэта: торба, кнігі –
Гэта ж, бляха, дакумент.

– Ды харэ нам затлумляцца:
“Ці было, ці не было”.
– Праўда, хопіць… І – збірацца
У рэальнае жытло.
Ёсць там што?
– Па сотцы выйдзе.
– Налівай тады скарэй,
Бо, калі хто з “музаў” прыйдзе,
Атрымаем звездзюлей.

– Чуеш? Нібы нехта пырснуў.
– Не было б другой тугі.
Азірнуўся… Толькі пырскі
Ды расходзяцца кругі.



## ЗАЎВАГІ

[1] *Размова ідзе пра верш С.Украінкі:*

*М.Яцкову*
Сёлета свой Дзень нараджэння
Святы Мікола Цудатворац
адзначаў у г. Магілёў-на-Дняпры…

*Зляцеў сівагракам*
*Мікола-Святы ў Падміколле*
*і сціпла прайшоў чалавекам*
*па ўюшлівых гонях людскіх,*
*і ў Храм увайшоў...*
*і лёгка не стала святому*
*ад хвалы такой. Ці заслужанай?*
*ад спеваў, такіх... ці заслужаных?..*
*і выйшаў ён з храма на волю,*
*забыўшы чало пераксціць.*
*А...*
*...выпілі пляшку амброзы*
*з тутэйшым наркотам Сяргунем,*
*пагаманілі “за жысь”*
*і потым паклалі галовы*
*на бляху трубы-цеплатрасы*
*і цёхкалі, цёхкалі, цёхкалі*
*ў лад салаўям.*

*“Божачкі, – марыў Мікола, –*
*а так бы хоць пару стагоддзяў...”*

*Толькі гэнае дзіва*
*не здолее й ён сатварыць.*

[2] *Друз – шчэбень; тоўчанае каменне, альбо цэгла; абломкі.*

[3] *Парнас – гара ў Грэцыі, на якой, паводле павер'яў старажытных грэкаў, жылі музы.*

[4] *Гран – адзінка аптэкарскай вагі, роўная 0,062 грама.*

[5] *У склад амуніцыі рыбака ўваходзіць, як правіла, нож у ножнах, які звычайна носіцца на паясным рамяні.*

[6] *Кастальскі ключ – крыніца на гары Парнас каля горада Дэльфы (Грэцыя). У Старажытнай Грэцыі шанаваўся, як святы ключ Апалона і муз, які дарue натхненне паэтам і музыкам.*

[7] *Маецца на ўвазе паэма “Тарас на Парнасе”, напісаная ў другой палове XIX стагоддзя Канстанцінам Васільевічам Вераніцыным.*



# Уладзімір Ліўшыц

## Горацкія сябры Янкі Купалы





( Праціяг. Пачатак у № 15-19 )

Вядома, што ў чэрвені 1934 года амаль месяц разам вандравалі ў творчай камандзіроўцы па Барысаўшчыне. Наведвалі запалкавую фабрыку. Сустракаліся з піянерамі, выступалі на літаратурных вечарах, што ладзіліся ў калгасах.

У лістападзе 1936 года Васіль Каваль быў арыштаваны, а 29 кастрычніка 1937 года растраляны.

### "Даражэнькай Паўлінцы..."

Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка, паэтэса, публіцыст, мемуарыстка, артыстка, кіраўнік харавых і драматычных калектываў, заслужаны дзеяч культуры БССР, з 1927 па 1931 гады, працавала выкладчыкам беларускай мовы кафедры беларусазнаўства сельскагаспадарчай акадэміі.



Паўліна Мядзёлка

Яна пазнаёмілася з Я. Купалам ў 1910 годзе. Ёй ледзь споўнілася 17, яму 29, калі яны ўпершыню сустрэліся ў старадаўняй Вільні, куды абодва прыехалі шукаць лепшай долі. Але ён ужо быў досыць знакаміты, а яна, простая дзяўчына з Будслава, толькі паступала ў гімназію. Панеслася, здаўшы іспыты, пахваліцца знаёмым. А насустрач – Янка Купала.

Янка Купала. 1908 г.

*«Мне адкрыў дзверы малады мужчына. Ён быў у камізэльцы, рукавы белай кашулі закатаны, высокі цвёрды каўнерык ад манішкі падпіраў падбародак, светлыя валасы, яшчэ мокрыя, гладка прычэсаны»,* – так сама Паўліна Мядзёлка апісала першую сустрэчу.

Пра паэта яна чула – і нават чытала яго вершы. Таму чакала ўбачыць змрочнага генія. А тут – галантны прыгажун з жартамі: ці шмат у Вільні прыгожых дзяўчат? *«Насупіўшыся, я ўвесь час маўчала, незадаволеная жартаўлівым паваротам гутаркі».*

Увосень 1912 года Паўліна паехала ў Пецярбург на Вышэйшыя камерцыйныя курсы, якія скончыла ў 1914 годзе. У час вучобы ў Пецярбургу пазнаёмілася з прафесарам Б.Эпімах-Шыпілам, на кватэры якога вечарамі збіралася беларуская моладзь, якая вучылася ў Пецярбургскіх навучальных установах. На кватэры прафесара жыў Янка Купала, які вучыўся на вячэрніх курсах А.С.Чарняева.



„Загляне сонца
і ў наша ваконца"

ПАЎЛІНКА.

Сцэны изъ шляхоцкаго жыцьця у 2-х актах.

Янкі Купалы.

ПЕЦЯРБУРГ 1913.

*"Акурат перад гэтым Янка Купала закончыў сваю "Паўлінку" і прачытаў нам,* — успамінала П.Мядзёлка, — *Мы загарэліся жаданнем яе паставіць. За арганізацыю спектакля ўзяўся брат прафесара Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла. А калі пачалі размяркоўваць ролі, спыніліся на тым, што менавіта ёй, П.Мядзёлцы, быць Паўлінкай. Як у жыцці, так і на сцэне..."*

П'еса прайшла з велізарным поспехам.

(Працяг будзе)



## Выпадак

Міхась БУЛАВАЦКІ

Зачытаўся ў аўтобусе "Глёрыяй Патрыяй".
Падыйшла й стала побач дзяўчына.
Мой позірк слізгануў па вабных лініях яе гнуткага стану
і заблукаў у лабірынце тых ліній без намеру выбрацца адтуль.
Раскрыты Зянон маркоціцца ў маіх руках.
Ды што мне смутак Зянона, калі перада мной жывая песня.

## КРАСАВІЦКАЯ СПРАВАЗДАЧА

28 красавіка 2013 г. адбылося чарговае пасяджэнне магілёўскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў". Старшыня аддзялення Мікола Яцкоў зрабіў справаздачу аб той працы, якая была зроблена сябрамі СБП у красавіку. Было адзначана, што абласныя сродкі масавай інфармацыі сталі больш адлюстроўваць прысутнасць нашай пісьменніцкай суполкі ў культурнай прасторы Магілёўшчыны. Былі абмеркаваны арганізацыйныя пытанні па выпуску літаратурнага альманаха – зацверджана рэдакцыйная калегія на чале з Яраславам Клімуцем. Пісьменнік Міхась Булавацкі выказаў думку, што новаму альманаху даспадобы будзе назва "Прытокі" – як наш Дняпро сілкуецца стромкімі прытокамі, так і беларуская літаратурная плынь атрымлівае новыя сілы ад сваіх шматлікіх прытокаў.



Пасяджэнне суполкі

М.Яцкоў расказаў прысутным пра святкаванне 1150-годдзя славянскай пісьменнасці і культуры, якое адбудзецца ў маі. Магілёўскае абласное аддзяленне СБП было запрошана да ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзенні гэтага свята. Таксама паступіла прапанова аб сяброўстве і творчым



Тамара Аўсяннікава і Фелікс Шкірманкоў



Міхась Булавацкі і Яраслаў Клімуць

супрацоўніцтве ад сакратара Курскага абласнога аддзялення Саюза расійскіх пісьменнікаў Алега Саранскіх.

Пасяджэнне было працягнутае выступленнем паэтэсы з Оршы Яўгеніі Казловай, якая распавяла пра сябе, свой творчы шлях, пра-



Ала Яцкова



Генадзь Шэпелеў



Мікола Яцкоў



Яўгенія Казлова

чытала вершы і праспявала песню, у якой словы і музыку напісала сама.

Таксама невялікую творчую справаздачу зрабіў Мікола Яцкоў, прапанаваўшы слухачам свае вершы, урывак з паэмы і песні на вершы беларускіх паэтаў. Адбылася і прэм'ера – прагучала песня "Беларусь" на верш Міхася Казакова ў перакладзе на беларускую мову Міхася Булавацкага. Вырашана, што такія творчыя справаздачы сябраў аддзялення СБП будуць мець месца на кожным пасяджэнні.

**Аліна САВІЦКАЯ.**

Фотаздымкі Г.Шэпелева і А.Яцковай.

"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку 30.04.2013 г.. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.